*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА


Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 18(74) ◈ 8 мая 1992 г. ◈ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)


## ПОСТУП ТЫДНЯ

ЗАВЕРШАНЫ ВЫВАД ТАКТЫЧНАЙ ЯДЗЕРНАЙ ЗБРОІ З ТЭРЫТОРЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. ТЭРМІНЫ ВЫВАДУ СТРАТЭГІЧНЫХ УЗБРАЕННЯЎ БУДУЦЬ АБМЕРКАВАНЫ НА ЧАРГОВАЙ СУСТРЭЧЫ КІРАЎНІКОЎ ДЗЯРЖАЎ СНД, ЯКАЯ АДБУДЗЕЦЦА Ў ТАШКЕНЦЕ 12 МАЯ.

*РАШЭННЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АБ ПАВЕЛІЧЭННІ МІНІМАЛЬНАЙ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ ДА АДНОЙ ТЫСЯЧЫ РУБЛЁЎ ВЫКЛІЧА РОСТ ЦЭН ЯК МІНІМУМ НА 30 ПРАЦЭНТАЎ.* Так лічыць першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. Мясніковіч.

ПА СВАЁЙ «ВАЯЎНІЧАСЦІ» САМАЯ СПАКОЙНАЯ РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ ЗАЙМАЕ ПЕРШАЕ МЕСЦА Ў СНД. Яна ідзе ўперадзе па канцэнтрацыі і колькасці воінскіх фарміраванняў на адзінку тэрыторыі. Таму асаблівае значэнне набыло рашэнне кіраўніцтва грамадзянскіх улад Беларусі забраць частку зямель у ваенных. І хоць плошчаў, якія нікім не выкарыстоўваюцца, выяўлена нямала, ПЕРАДАДЗЕНА ДЛЯ НАРОДНАЙ ГАСПАДАРКІ ЎСЯГО 20 ТЫСЯЧ ГЕКТАРАЎ. Пры нашых вялізных стратах сельгасугоддзяў ад Чарнобыльскай радыяцыі гэта не так і многа.

*З НАСТУПНАГА МЕСЯЦА НАМЕЧАНА УВЕСЦІ Ў АБАРАЧЭННЕ РАЗЛІКОВЫЯ БІЛЕТЫ НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА БЕЛАРУСІ. Спачатку іх будуць выкарыстоўваць пры набыцці харчовых тавараў, а пасля і прамысловых.* ПРЫМЯНЯЦЬ ГЭТЫЯ РАЗЛІКОВЫЯ БІЛЕТЫ ПЛАНУЕЦЦА ПАРАЛЕЛЬНА З РУБЛЯМІ.

УТВОРАНЫ НЕЗАЛЕЖНЫ ІНСТЫТУТ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫХ І ПАЛІТЫЧНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ. Заснавальнікамі яго сталі бізнесмены, палітыкі, вучоныя, якія імкнуцца падтрымаць прадпрымальніцтва, наогул новыя структуры недзяржаўнай эканомікі.

*АДКРЫЎСЯ ПАГРАНІЧНЫ ПЕРАХОД «ВАРШАЎСКІ МОСТ» У БРЭСЦЕ.* За суткі ён прапускае каля 60 аўтобусаў і 400 легкавых аўтамабіляў. Аднак пропуск па асабістых запрашэннях грамадзян застаецца закрытым.

## НАСТАЎНІК ГОДА




На працягу тыдня настаўнікі сярэдніх школ з усіх абласцей Беларусі спаборнічалі за права называцца настаўнікам года.

Пераможцам конкурсу стаў выкладчык англійскай мовы сярэдняй школы № 7 горада Баранавічы Юрый Усеваладавіч Маслаў.

**На здымку: настаўнік года Юрый Усеваладавіч Маслаў.**

**Фота Уладзіміра ШУБЫ.**

*Колькі будзе працягвацца русіфікацыя дзяцей беларусаў?*

*Стар. 2*

◆◆◆

**ТРЫМАЦЦА РОДНЫХ КАРАНЁЎ**

*Стар. 5*

◆◆◆

**Як беларускі кахаюць**

*Стар. 6*

*Нашы ў Францыі*

# *УРАЖАННЕ АД РЭПАРТАЖУ*

12 красавіка па беларускім тэлебачанні быў паказаны рэпартаж пра візіт беларускай дэлегацыі на чале з С. С. Шушкевічам у Францыю. Я ад усёй душы парадаваўся за родную Беларусь: першы раз у Заходняй Еўропе на такім высокім узроўні сустракалі афіцыйных прадстаўнікоў нашай рэспублікі. Францыя ж да нядаўняга часу нас проста не прыкмячала. І цяперашні прыём Французскай дэлегацыі нашай рэспублікі — гэта прызнанне той ролі, якую Беларусь адыгрывае ў СНД, з'яўляючыся яе каардынацыйным цэнтрам, яе высокага навукова-тэхнічнага развіцця (па ацэнках некаторых спецыялістаў, наша рэспубліка займае па сваім навукова-тэхнічным патэнцыяле адно з першых месц сярод рэспублік Садружнасці), параўнальна стабільнага становішча ў эканамічным і палітычным жыцці. Аднак у адносінах да гэтага візіта ў мяне ёсць заўвагі. Узяць хаця б тое, што перакладчыца для нашай дэлегацыі перакладала з французскай мовы на рускую, а не на беларускую. Значыць, у нас не знайшлося перакладчыка, які б добра ведаў беларускую і французскую мовы? Л. Краўчук, едучы ў Нямеччыну, узяў з сабой перакладчыка з веданнем нямецкай і ўкраінскай моў. А хто нам перашкаджаў гэта зрабіць? Калі мы ўжо навучымся сябе паважаць? На Захадзе звяртаюць увагу і на тое, на якой мове размаўляюць прадстаўнікі вышэйшай улады на Беларусі, у якой ступені ёю карыстаюцца. Пра гэта ўжо пісалася. Але нам важна не толькі тое, як пра нас думаюць у краінах Заходняй Еўропы, а перш за ўсё нам трэба выхоўваць у павазе да роднай мовы свой народ, сваю моладзь.

І яшчэ адно. Нашу дэлегацыю сустракалі ўрачыста, была пастроена ганаровая гвардыя ў традыцыйных, магчыма, яшчэ з часоў Напалеона Банапарта, парадных мундзірах. Дык ці не пара і нам падумаць пра падобную гвардыю, апранутую, напрыклад, у мундзіры салдат і афіцэраў войска Вялікага княства Літоўскага?

**Анатоль ЛІТВІНОВІЧ,**
**малодшы навуковы супрацоўнік лабараторыі беларускага фальклору і дыялекталогіі БДУ.**

**ДА ЎВАГІ СЯБРОЎ ТБМ!**

**Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны пры садзеянні Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны праводзіць рэспубліканскую канферэнцыю «Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь».**

**Канферэнцыя мае адбыцца 15 мая г. г. у Доме літаратара (г. Менск, вул. Фрунзе, д. 5). Пачатак у 10 гадзін 30 хвілін.**

**З 9 гадзін 30 хвілін (пры неабходнасці і ў час перапынкаў) плануецца пасяджэнне Рэспубліканскай Рады ТБМ з павесткай дня:**

**1. Справаздача аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці Рэспубліканскай Рады ТБМ за 1991 год і за I квартал 1992 г.**

**2. Аб выдавецкай дзейнасці Таварыства.**

**3. Рознае.**

**Просім накіраваць прадстаўнікоў рэгіянальных арганізацый ТБМ імя Ф. Скарыны ў Менск (заезд 14 мая ўвечары) для ўдзелу ў канферэнцыі.**

*Думкі аб правапісе*

# Досыць падладжвацца

Пра беларускае маўленне і правапіс да 1933 г. я ведаю мала. Але ў тэкстах, напісаных паводле таго правапісу, адчуваецца мова, якую я чула ў дзяцінстве ад сваёй маці ды ад суседзяў-вяскоўцаў. Сучасная ж беларуская мова настолькі русіфікаваная, што расіянам яна здаецца падобнай на расійскую, лёгкай для разумення. Якраз гэта не на карысць нашай мове. Бо людзі, не ведаючы правілаў, так і вымаўляюць, як чытаюць, а чытаюць — як напісана. У выніку ад беларускай мовы мала што застаецца. Да таго ж словазлучэнні, а то і цэлыя сказы складаюцца па-расійску. Вось, напрыклад, у радыёказцы «Дымок ад аўсянай кашы» (1 студзеня 1992 г.) прагучала: лесавік *пакрываўся* (трэба: накрываўся) *коўдрай*. Там жа пыталіся, з чым будзеце піць чай, *з мёдам ці з малінай?* (трэба: з малінамі). І яшчэ: *філін прачнуўся*... А чаму не пугач? А вось 3 студзеня ў ранішняй казцы для дзяцей пачула: *«Хочаш, я пакажу табе яе* (маму)?» А па-беларуску трэба, на мой розум, запытаць: *Ці хочаш, каб я табе яе паказала?* або *Калі хочаш, дык я табе яе пакажу.*

Вельмі часта па радыё ўжываецца слова «робіць» замест «працуе». Асабліва прыкра чуць такую «беларускую» мову ад вядучых і дыктараў радыё і з вуснаў артыстаў. Каму ж сачыць за правільным маўленнем і паказваць добры прыклад, як не ім?! Яны ж калечаць мову, не спрыяюць выхаванню маленькіх грамадзян — будучых нашых суайчыннікаў. Папраўляць жа скалечанае значна цяжэй, а часам і немагчыма.

Лічу неабходным як мага хутчэй увесці такі правапіс і прызнаць правільным такое вымаўленне, якія б найбольш выяўлялі асаблівасці нашай мовы. І наогул, мы павінны вярнуць у сваю культуру як мага больш таго, што набыў і збярог беларускі народ, чаму аддавалі талент, розум і сілу лепшыя сыны і дочкі нашай Бацькаўшчыны!

Мы не маем маральнага права загубіць плён працы нашых нацыянальных дзеячаў, фізічна знішчаных рупліўцаў беларускага Адраджэння. Няхай жа адноўленая сапраўдная беларуская мова будзе жывым помнікам такім дзечам, як Язэп Лёсік і Браніслаў Тарашкевіч, ды сімвалам нашай удзячнасці ўсім беларускім патрыётам.

**Валянціна КАЛАНОВІЧ,**
**сябар ТБМ імя Францішка Скарыны.**
**г. Наваградак.**

# Настаўнік і яго прыклад

Цяжка сёння настаўніку ў школе, асабліва выкладчыку роднай мовы і літаратуры. Занядбанае дзесяцігоддзямі беларускае слова вельмі і вельмі марудна вяртаецца ў грамадскае жыццё.

Але ж хто, як ні настаўнік, праявіць рашучасць, пакажа прыклад?.. Юрый Міхайлавіч Хітры, як толькі прыйшоў у школу пасля заканчэння Белдзяржуніверсітэта, задаўся пытаннем: «Што найперш зрабіць дзеля пашырэння ўжытку беларускага слова?» Хутка знайшоў і адказ: гэтай справе добра можа паслужыць тэатр. Неўзабаве ў СШ № 37 г. Менска ўзнік школьны тэатр.

Першай пастаноўкай самадзейных артыстаў стала камедыя В. Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта». Шчырыя і гарачыя апладысменты першых гледачоў натхнілі калектыў школьнага тэатра на нялёгкую далейшую працу. Зараз ужо ў самадзейных артыстаў склаўся і пэўны рэпертуар: «Паўлінка» і «Прымакі» Янкі Купалы, «Мікітаў лапаць» Міхася Чарота.

**А.К.**

*Надрукавана па-беларуску*


НАРОДНАЯ ТРЫБУНА
№ 1 пятніца, 20 сакавіка 1992 г. цана 1,5 руб. НЕЗАЛЕЖНАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА
ПОСТУП ТЫДНЯ
ЗАБЫТАЕ СВЯТА
ЗБОР ПОДПІСАЎ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

# НОВАЯ НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

**Выйшлі тры першыя нумары друкаванага органа «Народная трыбуна», які выдаецца ў г. Лідзе. У яго выхадных даных пазначана, што гэта «незалежная грамадска-палітычная газета», і прыведзены вядомыя радкі з «Пагоні» М. Багдановіча: «Біце ў сэрцы іх, біце мячамі, Не давайце чужынцамі быць».**

**Найбольшую ўвагу ў першых нумарах прыцягваюць матэрыялы Часовай камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па ацэнцы дзеянняў у падтрымку ГКЧП на тэрыторыі нашай рэспублікі. Гэтыя матэрыялы, як адзначае газета, не былі надрукаваны ў рэспубліканскай прэсе. У іх даецца аналіз становішча ў Беларусі напярэдадні путчу.**

**Так, яшчэ ў ліпені першы сакратар былога ЦК КПБ Малафееў выступіў у друку з артыкулам, у якім адзначалася: «Нельга не бачыць, што ў краіне быццам бы з прычыны пагрозы дыктатуры практычна разгарнуўся масіраваны наступ на сілы, якія стаяць на сацыялістычных пазіцыях. Прымушае задумацца, з якім аднадушшам правcovарадыкальныя сродкі масавай інфармацыі накінуліся на тых, хто заклікае прыняць усе неабходныя меры, аж да надзвычайных, каб спыніць далейшы развал эканомікі і навесці элементарны парадак».**

**А калі адбыўся путч, ЦК КПБ апублікаваў Зварот да народа, дзе гаварылася аб неабходнасці тых мер, якія былі прыняты ГКЧП. Прамую або ўскосную падтрымку змоўшчыкам аказалі абкамы, райкамы, гаркамы КПБ. У прыватнасці, падтрымалі дзеянні ГКЧП Магілёўскі, Гомельскі, Мазырскі, Лідскі, Лагойскі, Круглянскі і іншыя парткамітэты. Ні адзін з іх не асудзіў змову.**

**Не даў належнай ацэнкі дзеянням путчыстаў Прэзідыум Вярхоўнага Савета рэспублікі. У сваім Звароце ён апраўдваў дзеянні ГКЧП і заклікаў да спакою. У галасаванні па дадзенаму пытанню прынялі ўдзел 22 члены Прэзідыума. За Зварот прагаласавалі 16, супраць — 5 (Булахаў, Шушкевіч, Курдзюкоў, Садоўскі, Слямнёў), устрымаўся Міцько. Не асудзіў меры ГКЧП нам. старшыні Прэзідыума Шаладонаў.**

**Не выказаў сваіх адносін да путчу Савет Міністраў Беларусі. Аднак 19 жніўня начальнік упраўлення Савета Міністраў па пытаннях правоў грамадзян, грамадскай бяспекі і абароннай работы Данілаў правёў нараду кіраўнікоў праваахоўных органаў г. Менска, на якой патрабаваў выконваць рашэнні ГКЧП.**

**Пазіцыя Данілава абмяркоўвалася на пашыраным пасяджэнні камісіі. Было прынята рашэнне ўнесці на разгляд Старшыні Саўміна рэспублікі пытанне аб вызваленні Данілава ад займаемай пасады. Урад адхіліў гэтую прапанову, прыслаўшы ў камісію стандартную адпіску.**

**Прыводзяцца і іншыя факты падтрымкі «гэкачэпістаў» на тэрыторыі нашай рэспублікі.**

**У некалькіх нумарах друкаваўся артыкул Георгія Бараўцова пра вырашэнне зямельнага пытання. У ім адстойваюцца новыя формы гаспадарання — аднаасобнае валоданне зямлёй, стварэнне асацыяцый свабодных гаспадароў. «Толькі свабодная праца прывядзе нас да дастатку»,— піша аўтар, і з ім нельга не пагадзіцца.**

**«Хто тармозіць рэформы» — так называецца артыкул дэпутата Гродзенскага абласнога Савета А. Сокала. У ім говорыцца аб тым, што абласны Савет стаў па сутнасці шырмай для выканаўчай улады. Усе пытанні вырашаюцца за яго спінай ці ад яго імя шляхам розных камбінацый і падману большасці дэпутатаў. За ўвесь мінулы год яны збіраліся на сесіі толькі два разы. Стала правілам прымаць рашэнні на сесіях без папярэдняга азнаямлення дэпутатаў з праектамі, на слых, напрыклад, аб перадачы прадпрыемстваў у падпарадкаванне Саветаў і зацвярджэнні аблвыканкамам кіраўнікоў буйных прадпрыемстваў. Вядома, што ўсё гэта зроблена з той жа мэтай — каб можна было выканкамаўцам кіраваць гаспадарнікамі, як пакорлівымі хлапчукамі.**

**Забалаціраваць шкодныя рашэнні пакуль што перашкаджае кансерватыўная большасць, якая прывыкла вырашаць чужыя лёсы па-свойму. Хоць апошнім часам незалежных дэпутатаў становіцца ўсё больш. Асаблівыя надзеі падае дэпутацкая група ад Ліды, якая называецца «Адзінства». Праўда, і ёй нялёгка змагацца з наменклатуршчыкамі.**

**У адным з апошніх нумароў «Народная трыбуна» перадрукавала з газеты «Наша слова» артыкул Васіля Супруна «Патрыёты маўчаць не схацелі!». У прыпісцы ад рэдакцыі выказана запрашэнне да чытачоў дапоўніць матэрыял новымі фактамі, напісаць разам гісторыю бальшавіцкага тэрору супраць народа Беларусі. На старонках газеты змешчана вялікая падборка матэрыялаў на тэму «Шляхамі адраджэння: ці навучымся паважаць сябе?», абмеркаванне якіх намечана працягваць у будучым. Ёсць у «Народнай трыбуне» вершы, студэнцкі фальклор, анекдоты.**

**А. НІКАНАЎСКІ.**

*Але!*

# Для каго прыняты закон?

Атрымаў «Настаўніцкую газету» (№ 23 за 25 сакавіка), дзе змешчаны базавы навучальны план агульнаадукацыйнай школы (1 11 класы) на 1992/93 навучальны год. А тыдні два да гэтага ў газеце «Освіта» пазнаёміўся з падобным планам на будучы навучальны год на Украіне. Параўнаў гэтыя два базавыя навучальныя планы. Скажу вам, шаноўнае спадарства, параўнанне не на карысць беларусам. Хоць і змешчаны базавы план у «Настаўніцкай газеце» пад шапкай «Змены ў навучальныя планы агульнаадукацыйных школ», асаблівых змен у ім я не заўважыў. А што да дзяржаўнай мовы рэспублікі, то, прабачце, да Міністра асветы Беларусі і яго каманды, якая склала памянёны базавы навучальны план на 1992/93 год, мабыць, яшчэ не дайшло (і немаведама, ці дойдзе!), што Рэспубліка Беларусь — незалежная суверэнная дзяржава. Бо калі б дайшло, то яны не дапусцілі б таго, што на вывучэнне дзяржаўнай мовы ў школах з рускай мовай навучання адводзіцца толькі 26 гадзін у тыдзень у 1—9-х класах, а ў 10—11-х яе ўвогуле няма ў плане. У той жа час на вывучэнне мовы іншай дзяржавы — рускай, яны шчодра выдзелілі аж 47 гадзін, амаль удвая болей! Да якога ж часу будзе гэта працягвацца? Руская мова сёння такая ж замежная ў Беларусі, як і польская, нямецкая, англійская і іншыя. Дык чаму будзе працягвацца русіфікацыя дзяцей беларусаў, пачынаючы з 1-га класа, у якім у так званых «рускіх» школах на вывучэнне роднай мовы адводзіцца толькі 1 гадзіна, а на чужую, рускую — 7... Куды пазірае Вярхоўная Рада Рэспублікі Беларусь, якая прымала Закон аб мовах ды Закон аб дзяржаўным суверэнітэце? Чаму аддалі асвету ў рукі людзей, якія не клапаціліся ніколі пра прэстыж беларускай мовы і літаратуры і працягваюць весці такую ж палітыку і далей?

Руская літаратура «прыкрыта» новай шырмай — «сусветная літаратура». Але ж, наколькі мне вядома, чытацца яна будзе не на дзяржаўнай мове Беларусі, а на замежнай — рускай!

Дык ці суверэнная Рэспубліка Беларусь, спадары?

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг.**
**г. Узяслаў, Украіна.**

# Міласэрнасць — дзеяннем

У менскую гарадскую дзіцячую бальніцу № 2 перададзены каштоўны груз з Аўстрыі. У чацвёрты раз прыязджаюць сюды аўстрыйскія сябры. Пастаянную гуманітарную дапамогу аказвае бальніцы спецыяльна створаны ў міжнародным аэрапорце «Вена» камітэт. На гэты раз, акрамя медыкаментаў, інструментаў і вітамінаў, старшыня камітэта па аказанні дабрачыннай гуманітарнай дапамогі Йозеф Гайсвінклер (на здымку злева) перадаў загадчыку бальнічнай лабараторыі Сяргею Пыжову самы сучасны біяхімічны аналізатар.

**Фота Івана ЮДАШАА.**
**(БелТА).**



# Як чытаюцца літары алфавіта?

Напачатку невялічкі тэст: як вы, шаноўныя, прачытаеце «БНФ» ды «ФРГ»? Калі БэНэЭФ і эФэРГэ, то вы, значыць, звыкліся з чужым для беларускай мовы вымаўленнем і, лічу, з усёй «наркамаўкай» — сучаснай «беларускай» мовай, якая ніяк не прыжываецца ў народзе, бо ўшчэнт зрусіфікавана. Калі ж — БэНэФэ і ФэРэГэ, то часцяком ахвяруеце афіцыйнай брыдотай дзеля сапраўднае беларускае транскрыпцыі. Бо нават першачок-школьнік ведае, што ў нашым алфавіце няма літараў эФ, эР.

Але, відаць, таму ўзаконена няправільнае вымаўленне, каб выклікаць яшчэ больш недавер да нашай мовы і хутчэй зліцца з «бра́том нашим старшим», хоць і ў таго тут не ўсё ладзіцца.

Ды вось сапраўдным расійскім патрыётам гэта не патрэбна, яны толькі смяюцца: «Відаць, БэНэЭФ — гэта прыдатак шавіністычнага РэНэЭФ «Памяць»!

Што ж да мілагучнасці, дык лішнія літары ў нашых абрэвіятурах — што бруд на снезе. Затое, як дыяменты, зззяюць нашыя Кэ, Сэ, Рэ, бо вякамі ж адточаны.

**Алег ЮШКЕВІЧ,**
**сябар ТБМ імя Францішка Скарыны.**
**г. Менск.**

# «АКАФІСТ НАЙСВЯЦЕЙШАЙ БАГАРОДЗІЦЫ»

У Лондане ў перакладзе на беларускую мову (пераклад а. Аляксандра Надсона) выйшаў «Акафіст найсвяцейшай Багародзіцы» (выдавецтва «Божым шляхам», Лондан, 1992). На яго тытульным лісце змешчана ілюстрацыя «Дабравешчанне» паводле гравюры невядомага мастака ў кнізе «Акафісты» (Магілёў, 1698 г.). У мастацкім афармленні «Акафіста...» яшчэ некалькі ілюстрацый: «Жыровіцкая Божая Маці» паводле старой гравюры і «Маці Божая — Уладарка нябесная» паводле гравюры на тытульным лісце «Акафіста...» ў Малой Падарожнай Кніжцы Францішка Скарыны (Вільня, 1522 г.).

Перакладчык а. Аляксандр Надсон у сваім невялічкім уступным слове «Некалькі слоў пра Акафіст» раскрывае яго змест. Прапануем яго перадрук нашым чытачам.

**НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ПРА АКАФІСТ**

Сярод усіх стварэнняў Найсвяцейшая Дзева Марыя займае асобае, адзінае месца. У спрадвечным плане Божым яна была выбраная быць Маці Госпада Ісуса Хрыста, Бога, які стаўся чалавекам. Таму Яна справядліва называецца Маці Божай. Але веліч Яе не толькі ў Божым выбары. Як усе людзі, Марыя мела свабодную волю. І вось, калі ёй было сказана аб Божым намеры, Яна адказала пакорна: «Вось я слуга Божая: хай мне станецца згодна з Тваім словам» (Лк., 1:38). Гэта самыя важкія словы, сказаныя кімнебудзь на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва.

Царква Хрыстовая ад самага пачатку акружае Багародзіцу асаблівай пашанай. Яна з'яўляецца прыкладам свабоднага дасканалага паслушэнства волі Божай. Будучы адной з нас, Яна добра разумее нашы цяжкасці і патрэбы. Як Маці Божая, якая мае асаблівую ласку ў свайго Боскага Сына, Яна з'яўляецца нашай найбольш надзейнай і магутнай заступніцай і апякункай.

Шмат цудоўных малітваў і песняў у гонар Божай Маці было створана на працягу стагоддзяў. Адной з найбольш вядомых сярод усходніх хрысціян ёсць несумненна «Акафіст у гонар Божай Маці». Аўтарам яго звычайна лічыцца патрыярх канстантынопальскі Сяргей, які жыў у першай палове сёмага стагоддзя, хоць некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што Акафіст ранейшага паходжання. Як бы там ні было, ён хутка пашырыўся па ўсёй тагачаснай Візантыйскай імперыі. З прыняццем Хрысціянскай веры славянамі Акафіст быў перакладзены на царкоўнаславянскую мову. Быў ён вядомы і ў Беларусі. Францішак Скарына змясціў яго ў сваёй Малой Падарожнай Кніжцы, якая выйшла ў Вільні ў 1522 г.

Назва «акафіст» паходзіць ад грэцкага выразу, які можна перакласці як «несядальны гімн», г. зн. гімн, які трэба співаць стоячы. Ён складаецца з 24 песняў (строфаў). У грэцкім тэксце гэтыя песні, якія называюцца «ікасамі», злучаныя акравершам, г. зн. яны пачынаюцца кожная чарговай літарай грэцкага алфавіту. Прысвячэнне адрозніваецца характарам ад іншых песняў і не звязана з імі акравершам. Яно, напэўна, было напісана пазней і не з'яўляецца складовай часткай Акафісту. Парныя песні (другая, чацвёртая і г. д.; у славянскім тэксце яны завуцца «кандакамі») канчаюцца воклічам «Алілуя». Няпарныя (у славянскім тэксце «ікасы») маюць кожная па трынаццаць пахвалаў Багародзіцы, якія пачынаюцца словам «радуйся». Адсюль і іншая назва Акафіста: «Радасці Багародзіцы» (глядзі, напр., Малую Падарожную Кніжку Скарыны). Апошняя пахвала заўсёды тая самая. У перакладзе з грэцкай мовы на славянскую — «Радуйся невеста неневестная» Беручы пад увагу, што гэтае выражэнне ў сучаснай беларускай мове гучыць цяжка і не зусім зразумела, перакладчык пазволіў сабе перадаць яго адпазначным «Радуйся, Дзева Маці».

Хоць Акафіст з'яўляецца гімнам у гонар Багародзіцы, у ім апяваецца Божае мацярынства, месца Багародзіцы ў Божым плане збаўлення роду людскога. Увесь твор можна падзяліць прыблізна на дзве часткі. У першай частцы расказваецца аб прыйсці на свет Бога-Слова, ад Дабравешчання да сустрэчы, калі праведны. Сямён у прынесеным у святыню Дзіцяці прызнаў Збавіцеля. Другая частка — гэта лірычны роздум над глыбокімі тайнамі, аб'яўленымі ў евангельскіх расказах.

Месца Акафіста Багародзіцы ў Візантыйскай літургіі даволі сціплае. Спачатку ён співаўся ў свята Дабравешчання. Пасля служба Акафіста была перанесена на пятую суботу Вялікага Поста, якая ад таго часу пачала называцца «Суботай Акафіста». Затое ён вельмі пашыраны ў прыватным ужытку сярод хрысціянаў усходняга абраду. Многія гавораць Акафіст часта, нават кожны дзень, падобна як заходнія хрысціяне гавораць ружанец або малое правіла Найсвяцейшай Дзевы Марыі.

Чытанне Акафіста звычайна канчаецца кароткай малітвай у гонар Багародзіцы. Выбар яе свабодны. У гэтым выданні малітва, узятая з Малой Падарожнай Кніжкі Францішка Скарыны. Усё паказвае на тое, што яе аўтарам быў сам беларускі першадрукар. Першая частка малітвы — гэта несумненна паэтычны твор, а другая напісаная рытмічнай прозай.

Апошнім часам Акафіст стаўся даволі шырока вядомым на Захадзе. Сёння ўжо існуюць яго пераклады на ўсе еўрапейскія мовы.

Аддаючы ў рукі чытача гэты беларускі тэкст Акафіста, перакладчык спаўняе сваю запаветную мару, каб гэты цудоўны гімн у гонар нашай нябеснай Уладаркі і апякункі загучаў на беларускай мове.

**Аляксандр НАДСОН.**

Лондан, свята Дабравешчання, 25 сакавіка 1992 г.

**Да друку падрыхтавала Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**

*Чыталі?*

# Пачуццё ўласнай годнасці

Першы ў гэтым годзе нумар часопіса «Спадчына» параўнальна нядаўна атрыманы падпісчыкамі.

Па традыцыі яго адкрывае публіцыстычны раздзел «Гісторыя і культура». Аляксей Марачкін у артыкуле «Няма жыцця ў крайнасці...» разважае пра адказнасць нашых паводзін у сённяшні час. «Гадамі, пачынаючы з часоў Мураўёва-вешальніка, а мо і раней, паслядоўна вытручвалася ў народа пачуццё ўласнай годнасці, ідэя быць самастойнымі і незалежнымі...» І далей: «Ніхто нікому не дазваляе, ніхто нікому не дае. А калі ж нехта нешта дае, то нехта можа і адабраць. Свабоду, незалежнасць ніхто нам не прынясе на сподачку. За яе трэба змагацца, яе трэба дамагацца». Побач — артыкул Алега Латышонка «Народзіны беларускай нацыянальнай ідэі».

Часопіс змяшчае гістарычнае апавяданне Уладзіміра Арлова «Пішу вам у Масковію», а ў раздзеле «Вяртаецца да чытача» друкуецца працяг працы А. Цьвікевіча «Западно-руссизм».

Раздзел «Даследаванні і меркаванні» дапамагае чытачу спазнаць цэлы шэраг гістарычных таямніц і загадак. Марына Ялінская расказвае пра праваслаўныя брацтвы ў сярэднявеч[illegible] Беларусі: пра іх дзейнас[illegible] ролю ў фарміраванні навукова-адукацыйных асяродкаў. Алесь Кушнярэвіч апісвае іўеўскую готыку. Краязнаўца Міхась Вераціла ў артыкуле «Кубак-жарт» характарызуе археалагічную знаходку з вёскі Мачульна Ваўкавыскага раёна.

У раздзеле «Скарбніца» публікуецца артыкул Адама Станкевіча «Родная мова ў святынях» (з кніжнага выдання 1929 г.). З эмігранцкіх выданняў знаходзім артыкул Аўгена Калубовіча «Акт 25 сакавіка і адраджэнне нацыянальнай беларускай культуры». А «Сілуэты продкаў» папоўніліся гістарычна-дакументальным апавяданнем Віктара Чаропкі «Гедымін».

Ганна ЦІТАЎКА.

*Чыталі?*

# «Часопіс»

Выйшаў у свет № 2—3 «Часопіса», што выдаецца ў Беластоку.

На жаль, на гэты раз у «Часопісе» небагата беларускамоўных матэрыялаў. Пад рубрыкай «Па нашых гарадах і вёсках» друкуецца нарыс «Аўгустова». Аўгустова — гэта вялікая вёска (каля 200 дамоў), якая знаходзіцца ў трох кіламетрах на захад ад Бельска Падляшскага. «...Назва Аўгустова першы раз упамінаецца ў «Люстрацыі Падляшскага ваяводства» за 1576 г. Магчыма, што была яна даная ў чэсць караля Жыгімонта Аўгуста (М. Кандрацюк «Назвы...»). Сярод жыхароў Аўгустова жыве яшчэ сёння перакананне аб прывілеях, даных для вёскі праз таго караля.

Сярод тадышніх сустракаеш характэрныя старабеларускія царкоўныя імёны: «Тат'яна, Іван, Васіль, Дэм'ян, Трохім, Кірыло, Стэпан, Даніло, Грыгор, Філімон і г.д. Рэдкія імёны польскія: Марыанна, Рэгіна, Кшыштоф», — піша Мікола Сахарэвіч у названым нарысе, сцвярджаючы думку пра тое, што беларусы на Беласточчыне жылі спакон веку.

Міраслава Лукша знаёміць з творчасцю Віктара Шніпа.

«Часопіс» багата ілюстраваны здымкамі і малюнкамі гістарычных мясцін Беласточчыны, а таксама партрэтамі людзей, якія дбаюць пра родны край.

***Доктар псіхалагічных навук, прафесар Менскага педагагічнага інстытута Якаў Львовіч Каламінскі быў запрошаны чытаць лекцыі ў Холандскім коледжы, што ў амерыканскім штаце Мічыган. Там ён пазнаёміўся з Міколам Прускім, былым друкаром, а цяпер пенсіянерам, які сам адзін рэдагуе і выдае часопіс «Беларускі сьвет», адзін нумар якога, 22(51) за 1991 год, спадар прафесар перадаў нам. Шчыра яму дзякуем!***

# «Я Й ЗА ГАРОЮ ВАМ ПАКЛАНЮСЯ»

Нядаўна гукалі вясну... І чуем ужо — з-за «мораў» — галасы тых, каго сібер пагнаў некалі «ў вырай».

Доўгі, на жаль, вырай... А шмат хто ўжо ніколі не вернецца на Радзіму, куды колькі разоў штодня ў снах, у марах прылятаілі... «Вяртаўся», мабыць, у «родны кут» і Міхась Міцкевіч, малодшы брат Якуба Коласа, калі пісаў «успамін» пра амаль невядомага нам Костуся Міцкевіча: «У 1898 годзе Костусь паступіў у настаўніцкую семінарыю ў Нясвіжы... І тут юнак спаткаўся з ганьбаваннем усяго таго, што яму было любае й мілае... Дарма, што розумам ён успрыняў накінуты школай пагляд на свой родны кут, любасці да гэтага краю й арганічнай сувязі з сваім народам чужая школа не магла забіць. Адсюль паўстала духовая дэпрэсія ў паэта, і зрадзіўся той чорны няўцешны песімізм, што толькі рэхам адбіўся ў ягоных творах у роднай мове...»

Ні наша навука, ні літаратура не скарысталі яшчэ і з магутнага таленту Марыяна Пецюкевіча, амаль невядомага на Беларусі этнографа, супрацоўніка Торуньскага польскага этнаграфічнага музея. У «Беларускім сьвеце» надрукаваны ўрывак з яго ўспамінаў «У пошуках зачараваных скарбаў» пра вучобу ў Віленскай беларускай гімназіі, пра выкладчыкаў Браніслава Тарашкевіча, Радаслава Астроўскага, Максіма Гарэцкага, Антона Луцкевіча, ксяндза Адама Станкевіча, які асабіста даваў прыклад рэлігійнай цярпімасці: «І мы маглі бачыць, як ксёндз Адам Станкевіч пры заканчэнні праваслаўнага богаслужэння падыходзіў да алтара й разам з усімі цалаваў крыж, а за ім падыходзілі прысутныя каталікі й прыкладаліся да праваслаўнага крыжа». А яшчэ даведваемся, што Адам Станкевіч наняў для бяднейшых вучняў вялікую кватэру «на вуліцы Полацкай, 9».

У Віленскай беларускай гімназіі гартаваўся дух вясковай моладзі, якая пасля загаціла польскія ды савецкія турмы. Тыя з іх, хто ацалеў, як сам М. Пецюкевіч, вымушаны былі шукаць ратунку на чужыне.

Ды не стала яна ацалелым з «сакалінай сям'і» хаця б «хрышчонай маці». За акіянам давялося цяжка працаваць і Міхасю Кавылю, які спачатку быў «прыбіральнікам... а пасля ткачом... таксама ў Форда, дзе закручваў гайкі... а тады — больш за 20 гадоў скручваў драты... быў аператарам...» Ды ўжо на пенсіі Міхась Кавыль вярнуўся да творчасці, да паэзіі, з якой яго, паэта Язэпа Маёвага, студэнта Менскага педагагічнага тэхнікума імя У. Ігнатоўскага, разлучылі ў 1933 годзе.

У «Беларускім сьвеце» змешчаны (на вокладцы) яго фотапартрэт, надрукаваны два вершы, адзін з якіх ужо стаў песняй. Даведваемся таксама, што Міхась Кавыль працуе над раманам «Із агню ды ў полымя». Тут жа надрукаваны і працяг рамана «Вялікія дарогі» Уладзімера Глыбіннага, у якім апавядаецца пра жыццё ў акупаваным немцамі Менску, верш Анатоля Бярозкі, артыкул прафесара Якава Каламінскага «Невядомы Чарнобыль», «апавяданні-сненні» Вітаўта Мартыненкі, верш Сымона Белага «Любімы Якуб Колас».

Шмат хто з беларусаў шчыраваў на беларускай заакіянскай ніўцы. Мікола Прускі, зямляк і родзіч Якуба Коласа, выбраў «белае поле, чорнае насенне — хто яго сее, той разумее». І раслі на той ніўцы васілёчкі... «Я ж гавару вам: добра быць коласам, але шчаслівы той, каму давялося быць васільком».

Мікола Прускі гукаў не толькі аматараў «прыгожага пісьменства», але і аматараў-даследчыкаў беларускай літаратуры і культуры, творы якіх не маглі б убачыць свет на Радзіме. І пачалі зляτацца з усяго свету ў Гранд Рапідс лісты і рукапісы. І тут, у прыватнай «сапраўднай друкарні» Мікола Прускі (яму за шматгадовую сумленную працу падаравалі друкарскія машыны, якія ён паставіў у сутарэнні свайго дома) дорыць вечнае жыццё ўсім, хто жыве ў беларускім «духовым» свеце-сусвеце. А сярод іх — В. Сенькевіч (піша, пра Уладыслава Сыракомлю-Кандратовіча), Васіль Будзімер (перакананы, што «найлепшай і найбольш практычнай формай землекарыстання на Беларусі павінен быць пасёлак не больш дваццаці гаспадарак»), Ант. Адамовіч (даследуе-аналізуе творчасць Алеся Салаўя), Васіль Стома (згадвае «Абрады й звычаі Дзісненшчыны...»).

Шырокі ды цікавы беларускі свет-сусвет у «Беларускім сьвеце»! Таму «я й за гарою вам пакланюся».

**Здзіслаў СІЦЬКО.**

Павел СЦЯЦКО

# Трымацца родных каранёў

## Даведнік па чым? ці Даведнік па чаму?

*Даведнік ПА сучасным правапісе і іншых пытаннях беларускай мовы.* «Даведнік па сучаснаму правапісу і іншым пытанням беларускай мовы».

Першая канструкцыя — нарматыўная ў беларускай літаратурнай мове: у ёй залежныя словы з прыназоўнікам ПА маюць формы меснага склону, адказваюць на пытанне *па чым? Даведнік* (па чым?) *па сучасным правапісе і іншых пытаннях...*

Другая канструкцыя — штучная, неўласцівая беларускай мове: у ёй залежныя словы з прыназоўнікам ПА маюць форму давальнага склону, адказваюць на пытанне *па чаму?* (Канструкцыя «ПА плюс давальны склон» характэрная для расійскай мовы, дзе яна выступае як нарматыўная і залежныя словы адказваюць на пытанне: «По чему?» Напрыклад: «Справочник по современному правописанию и другим вопросам белорусского языка»).

Як вынік змешвання гэтых заканамернасцяў дзвюх розных моў узнікла трэцяя канструкцыя, у якой адна частка залежных слоў з прыназоўнікам ПА мае канчаткі меснага склону (формы множнага ліку), а другая набывае канчаткі давальнага склону (формы адзіночнага ліку): «Даведнік па сучаснаму правапісу і іншых пытаннях беларускай мовы». Такая мяшанка, вядома ж, не можа лічыцца літаратурнаю нормаю, бо ў ёй «спрэжаны» сінтаксічныя канструкцыі розных моў: *«ПА плюс месны склон»* — беларускай і «ПА плюс давальны склон» — расійскай. Такая «трасянкавая» канструкцыя асабліва моднаю была ў 70—80-я гады, калі функцыю дзяржаўнае мовы ва ўсіх сферах жыцця выконвала расійская, калі на Беларусі па-беларуску выкладаліся толькі беларуская мова і літаратура, а нярэдка і літаратуру «выкладалі» па-расійску. І запаланілі нашу мову канструкцыі «ПА плюс давальны склон». Такая палітыка і практыка адпавядалі ідэі зліцця моў народаў СССР і аб'яднання ўсіх этнасаў у адзіны «савецкі народ».

Дзеля здзяйснення гэтай ідэі пад націскам ідэалагічнага кіраўніцтва рэспублікі была праведзена ў 1972 годзе канферэнцыя па «нармалізацыі» беларускай мовы, дзе прапаноўвалася замацаваць канструкцыю накшталт «па гэтаму пытанню» як норму для беларускай літаратурнай мовы. Пры гэтым рабілася спроба «абгрунтаваць», што тут залежныя словы з прыназоўнікам ПА стаяць у месным склоне. З'явілася нават адпаведнае правіла «Канчаткі назоўнікаў у канструкцыях з прыназоўнікам ПА» на старонках «Арфаграфічнага слоўніка для сярэдняй школы» М. Судніка і М. Лобана (Мн., 1972 год). Але калі чытаеш сказ «Выступленні ПА ГЭТАМУ пытанню ў друку можна толькі вітаць» (у нататках, дзе абгрунтоўваўся тэзіс пра такія формы «меснага» склону з прыназоўнікам ПА), то бачыш, што ў канструкцыі «па гэтаму пытанню» залежныя словы маюць форму давальнага склону (чаму? — гэтаму пытанню), а не меснага, бо ў месным склоне мелі б «па гэтым пытанні». Рашэнні канферэнцыі і правілы арфаграфічнага даведніка патрабавалася строга выконваць. Таму шырокаю плынню сталі запаўняць друкаваныя старонкі беларускіх выданняў вось такія канструкцыі («ПА плюс давальны склон»: па гэтаму значэнню, па ўсяму свету, па гораду, па тонкаму льду, па свайму росту, разьба па дрэву, па хімічнаму саставу).

Сёння, калі наша Бацькаўшчына стала незалежнаю дзяржаваю — Рэспублікай Беларусь, калі стала адраджацца наша духоўнасць, нацыянальная культура і мова, мы вяртаемся і да натуральнага стану нашае мовы, да заканамерных, натуральных сінтаксічных канструкцый. Іх бачым у творах выдатных сыноў беларускага народа — Браніслава Тарашкевіча, Усевалада Ігнатоўскага і іншых дзеячаў нацыянальнага адраджэння. Напрыклад, у Б. Тарашкевіча: *«Якая галоўная розніца між прыметнікам і дзеясловам па значэнні (па сэнсе)?»* («Беларуская граматыка для школ». Выд. 5. Вільня, 1929, с. 26). У кнізе У. Ігнатоўскага «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» (Менск, 1926, с. 81) чытаем: *«А мы, літвіны, будзем маліцца па нашым звычаі, бо ўсе мы паважаем аднаго Бога»*.

За апошнія гады натуральная для беларускай мовы канструкцыя «ПА плюс месны склон» стала пераважнаю амаль ва ўсім друку. Гэтай нормы трымаюцца нашыя аўтарытэтныя часопісы «Полымя», «Маладосць», «Спадчына», газеты «Літаратура і мастацтва», «Культура», «Настаўніцкая газета», «Роднае слова» і іншыя часопісы і газеты. Беларуская газета «Звязда», перастаўшы быць кампартыйным органам, таксама выкарыстоўвае нарматыўныя формы меснага склону ў канструкцыі з прыназоўнікам ПА. Напрыклад, у нумары за 21 сакавіка 1992 года ў матэрыяле «Ёсць справы больш неадкладныя...» чытаем: *«Каля 170 дэпутатаў з гонарам называюць сябе «незалежнымі» і ні да якіх іншых фракцый не належаць. А значыць, прадказаць, якую пазіцыю яны зоймуць па тым ці іншым пытанні, проста немагчыма»*.

Але ў той жа «Звяздзе» за 26 сакавіка 1992 года чытаем: «У зводцы здарэнняў ПА ГОРАДУ МІНСКУ паведамлялася...» Або: «Закончыўся першы і, мяркуючы ПА ЎСЯМУ, апошні чэмпіянат Садружнасці Незалежных Дзяржаў ПА РУЧНОМУ МЯЧУ сярод мужчын» («Звязда» за 31 сакавіка 1992). Як бачым, скалечаная канструкцыя ўсё яшчэ клыгае па газетных старонках.

Найбольш парушэнняў у канструкцыі з прыназоўнікам ПА маюць формы адзіночнага ліку, бо тут могуць супадаць канчаткамі абодва склоны: месны і давальны. Напрыклад: «хадзіць па садку» *(па чыстым садку* — месны склон, «хадзіць па чыстаму садку» — давальны склон). У такім разе на канкрэтны склон паказвае дапасаванае да назоўніка слова. А ў скарочаных канструкцыях, дзе няма дапасаваных слоў, пры вызначэнні формы склону карыстаюцца пытаннямі: *па чым?* (месны склон), *па чаму?* (давальны склон). Але канчаткі, як ужо паказвалася, могуць не адрозніваць гэтых формаў, бо абодва склоны маюць тыя самыя канчаткі. Так, супадаюць у месным і давальным склонах адзіночнага ліку канчаткі назоўнікаў жаночага роду: *сцяне, печы, пасцелі, шашы.* Словы мужчынскага роду, як правіла, маюць розныя канчаткі: *дому, гораду, тэлефону* (давальны); (аб, пры, па) *доме, горадзе, тэлефоне* (месны). Таму правільнаю будзе канструкцыя *па доме, па горадзе, па тэлефоне*.

Канчатак *-у(-ю)* у месным склоне маюць назоўнікі мужчынскага роду з асноваю на *к*, а таксама на *г, х*, калі яны не чаргуюцца з *з, с: па ганку, па даху, па універмагу* (але: *па універмазе, у Пецярбурзе, на лузе, у кажусе).* Акрамя таго, канчатак *-у (-ю)* маюць у месным склоне назоўнікі, якія абазначаюць асобу: (аб, пры) *брату, дзеду, бацьку, кавалю, Купалу, Францішку Скарыну.* Таму выкарыстанне такіх слоў з канчаткам *-у(-ю)* у канструкцыі з прыназоўнікам ПА зусім натуральнае, правільнае: *сумаваць па брату, бацьку, кавалю, Купалу.* У астатніх выпадках (за выключэннем асабовых назоўнікаў і слоў на апошнія зычныя асновы ***г, к, х***) **у канструкцыі** з прыназоўнікам ПА і формамі меснага склону назоўнікі мужчынскага роду маюць канчатак *-е* (пры цвёрдай аснове ў назоўным склоне) ды *-і* (пры мяккай аснове ў назоўным склоне). Назоўнікі ніякага роду маюць адметныя канчаткі ў давальным *(-у,-ю)* і месным *(-і,-ы)* склонах: *акну, сонцу, здарэнню, пытанню, мовазнаўству;* (аб, пры, на) *акне, сонцы, здарэнні, пытанні, мовазнаўстве.* Значыць, пры спалучэнні «ПА плюс месны склон» будзе: *па акне, па сонцы, па здарэнні, па пытанні, па мовазнаўстве.*

*(Заканчэнне будзе).*

*Называйце па-беларуску*

### Медуніца

Часта побач з пралескамі можна ўбачыць расліну, апушаную шорсткімі валаскамі, на якой, нібы скручаныя ў завіток, адначасова цвітуць ружовыя, фіялетавыя, блакітныя і сінія кветкі. Медуніцу лёгка можна пазнаць, бо ля яе ўюцца чмялі, пчолы, матылі: кветкі медуніцы маюць шмат нектару.

### Кураслеп

Ранняю вясной нашы лясы і гаі ўсцілае суцэльным зялёным дыванам расліна з трыма трохпалымі лісточкамі і белай кветкай пасярэдзіне. Гэта — *кураслеп.* Называюць яе яшчэ: *слепет, белыя пралескі, казадрост, капанелька.* Расліна дала назву і ўрочышчу Курапаты за былой вёскай Зялёны Луг. Ці не ад рэчыва, што ўздзейнічае на зрок, і пайшла назва кураслеп, бо ўся расліна атрутная і жывёла яе не есць.

### Лотаць

Буйнымі ярка-жоўтымі кветкамі аздоблены берагі рачулак, канаваў, сажалак, уздымаючца яны і над вадою на паплавах — цвіце лотаць. Так яе называюць амаль усе славяне. Відаць, атрымала яна сваё імя яшчэ ад праславян. Навуковая назва лотаці *кальта* (так рымскія пісьменнікі Вергілій і Пліній называлі нейкую паўночную жоўтую кветку) *палюстрыс* — балотная.

### Сон

Гэтую расліну не зблытаеш ні з якой іншай. Яе бутон апушаны, як і сцябліна, мяккімі шаўкавістымі валаскамі, дачасу паніклы, нібы спіць. Толькі цёплым днём выпростваецца і раскрываюцца сінія або сінявата-фіялетавыя пялёсткі *сну*, сярод якіх жаўцеюць тычынкі. А расце ён у барах, на пясчаных узгорках і ўзлесках. Іншыя беларускія назвы расліны: *сончык, сон-трава, друмель*.

### Ключыкі

Навуковая назва гэтай расліны — *прымула афіцыналіс*, ад лацінскага слова «прымус» — першы. Яе жоўтыя кветкі, сабраныя ў суквецце на бязлістай сцяблінцы, то ўзнімаецца над зморшчанымі лісткамі ці на схіле ўзгорка, ці ў агародчыку ля хаты, цешаць вока ўжо ад першых дзён красавіка. (Другое слова назвы *афіцыналіс* — лекавая, бо расліна паўсюдна выкарыстоўваецца ў народнай медыцыне). Але наколькі цікавейшая беларуская назва! У ёй асабліва выразна ўвасобілася паэтычнае, вобразнае мысленне нашых продкаў. *Ключыкі* не проста расцвітаюць першымі — яны адмыкаюць зямлю.

*У свеце слоў*

### Пакрышка

Надзіманыя паветрам апоны з'явіліся раней за аўтамабіль. Першым іх вынаходнікам лічыцца англічанін Р. Томпсан. У 1845 годзе ён прапанаваў «паветранае кола» для конных павозак і экіпажаў. Другое адкрыццё зроблена Д. Данлопам. У 1887 годзе ён разрэзаў шланг для палівання саду, склеіў канцы, накачаў паветрам і «абуў» у пнеўматыку трохколы веласіпед. А потым пайшлі апоны для розных машын.

**Іван ШПАДАРУК.**

Павел МІСЬКО

## Сказаў як звязаў

**Втирать очки** — Вадзіць за нос.— Мяшаць гарох з капустаю.

**В чём душа держится** — Ледзь дух адцягвае (зводзіць).

**В четырёх стенах** — Між намі кажучы.— Не вам кажучы.

**Выбиться из сил** — Абнясілець.— Прыстаць.

**Выкрасить да выбросить** — Пад плот выкінуць (выліць).

**Высасывать кровь** — Цягнуць жылы.

**Высохнуть как щепка** — Выпетраў, адзін нос астаўся.

**Вытаращивать (выпучивать) глаза** — Вочы вылупліваць.

**Глуп как пробка** — Дурны як бот з левай нагі.

**Гнуться в дугу** — Лістам слацца.

**Голова садовая** — Галава і два вухі.

**Гори синим огнём** — Хай цябе агонь высмаліць.

**Давать на чай** — Сунуць у лапу.

**Два сапога пара** — Ехала разява ды мне аглобляю ў рот.

**Делить шкуру неубитого медведя** — Не кажы «гоп», пакуль не пераскочыш.

**Держать себя высоко** — Шмат мух у носе.— Кіем носа не дастаць.

**Держать (иметь) сердце** — Коса глядзець.

**Держи карман шире** — Разяўляй рот, упадзе.

**До чертá** — Ліха ведае колькі!

**Дрожать над каждой копейкой** — За капейку ўдушыцца.— За капейку вош пешшу ў Маскву гнаць.

**Дурак набитый** — Дурань дурны.

**Едва ноги волочить** — Кеўкаць патрохі.

**Ей-ей (ей-же-ей)** — Дальбог.— Каб я так жыў (дыхаў)! — Даліпантачкі.

**Есть поедом** — Вантробы пераядаць.

**Еще бы!** — Яшчэ ж як! — А няўжо ж не!

**Живот подвело** — Кішкі марш іграюць.

**Живые мощи** — Лепшага ў труну кладуць.

**Жить в своё удовольствие** — Жыць прыпяваючы.

**Жить на чужих хлебах** — Жыць з чужой ласкі.

**Забодай тебя комар** — Каб цябе качка ўбрыкнула.

**Загребастые глаза** — Вочы завідушчыя, рукі заграбушчыя.

**Заливаться соловьём** — Вытылінгваць як на скрыпцы.




*Рубрыку вядзе*
*Лявон* **БАРШЧЭЎСКІ**

У XII—пачатку XIII стагоддзя жыў і тварыў класік усходняй паэзіі, азербайджанскі персідскамоўны паэт Нізамі Гянджаві (1141—1209), адну з газеляў якога мы прапануем у перакладзе з узбекскага падрадкоўніка.

**Нізамі ГЯНДЖАВІ**

* * *

Перад шынком стаяў я ўчора,
перад закінутым, старым,
Ды колькі ні крычаў у вокны,
не быў пачуты я нікім.
Ці я нікога не цікавіў,
ці вінагандляры сышлі —
Знутры нішто не выдавала
сябе ні шолахам адным.
І толькі ўжо за поўнач — можа,
калі я грукаў соты раз,
З'явіўся нехта невідочны
як быццам бы ў акенцы тым.
Спытаў ён: «Хто ты? Што такое?
Навошта ты прыйшоў сюды?
Ці гэта добра, ці разумна
быць гэткім прыхаднем начным?»
«Ну, адчыняй хутчэй!» — я крыкнуў,
а ён мне: «Не чакай, ідзі! —
Дзвярэй ніхто не адчыняе
гасцям запозненым такім,
Бо тут не храм, дзе проста дзверы
адчыненыя ўсе заўжды,
Дзе быць зусім няцяжка госцем
жаданым, нават дарагім.
А тут свой час ахвотна бавяць
чараўнікі ды ўсякі люд;
Красуні, свечкі, вінапіцце —
усе пяюць, адчуўшы ўздым.
Тут вернікаў ты ўсіх убачыш —
язычнікаў ды мусульман...
Ёсць іудзеі ды індусы,
ды хрысціянскі пілігрым.
Калі ж і ты аддань веры,
яна адна ў цябе ў душы,—
Усё, чым ты жывеш на свеце,
кіруе хай быццём тваім».
Навошта ў тыя дзверы грукаў
ты гэтак доўга, Нізамі? —
Агню не знойдзеш тут нізвання,—
а толькі дым, халодны дым.

**Пераклад Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.**

*Проза*

**Вольфганг ЛАНГЕ**

# Дванаццаць вінаватых

*(Працяг. Пачатак у №№ 16—17)*

— Вы, значыць, і ёсць Мойзле Альфрэд,— гаварыў Фаўльхубер,— які першы, так сказаць, выявіў няшчасце. Да таго ж вы ахвяравалі сваім каштоўнейшым часам на ахову гэтай чортавай калясніцы. Вельмі ласкава з вашага боку, вельмі, вельмі ласкава. Казе ж вашай даўно ўжо час пасвіцца на лузе, так? Колькі ж яна літраў дае?

Былы чыгуначны вартаўнік пачухаў патыліцу: казу доіць яго жонка, і ён мала што ведае пра казінае малако.

— Дробязь,— суцешыў яго інспектар.— А калі вы летам выводзіце яе на пашу?

— Роўна а шостай. Трэба ж яшчэ і гарод паліваць.

— І сёння таксама?

— А як жа! Яшчэ жонцы сказаў, што дзень пагодлівы і казу можна цэлы дзень трымаць на выгане.

— А потым, калі ішлі па плошчы, вы і ўбачылі разбітую машыну і павалены помнік. А ці заўважылі вы яшчэ што-небудзь такое? Ну, чалавека, напрыклад, які ўцякаў?

— Не, не бачыў,— Мойзле зноў пачухаў за вухам.— Толькі вадзіцель аўтобуса ішоў цераз рынак, але і ён нікога не бачыў.

Інспектар перамяніў тэму:

— Значыцца, гэта — машына пана Клейдэрэра? Вы яго ведаеце?

Стары кіўнуў галавой.

— Як жа ж не ведаць! У школу разам хадзілі, Клейдэрэр гэты і я. Цяпер ён не пазнае мяне, калі раз'язджае па наваколлі на сваёй машыне. Але зараз яму прыйдзецца нямала пахадзіць пешa. Тугавата давядзецца гэтаму Готхальду з яго тоўстым пузам.

— Вы яго недалюбліваеце?

— Што вы! — стары загаварыў хутчэй: — Яшчэ чаго! Ён жа самы багаты чалавек у мястэчку, кіраўнік нашых баўэраў.— Ён на імгненне запнуўся, потым сказаў: — Пры Гітлеры ён жыў прыпяваючы і цяпер зноў у абшчыннай радзе. Хвалько, якіх мала, і на людзей лаецца, калі пад мухай, вось што мне не падабаецца. А так што!

Нейкі момант Фаўльхубер маўчаў, мусіць, абмазгоўваючы гэты дыпламатычны адказ, потым запытаў:

— Значыць, ён прыкладаецца да бутэлькі?

— Не прыкладаецца, а жлукціць — не адарваць. Усе вам гэта скажуць.

— І п'яны раз'язджае на машыне?

На твары ў Альфрэда Мойзле адбілася нейкая вясёлая міна. Ён пачаў расказваць гісторыю пра ўдаву Пікалейт і яе вазок. Обер-вахмістр перабіў старога.

— А хто, пан Мойзле, на вашу думку, наехаў машынай на помнік?

— Готхальд гэты, хто ж яшчэ?

— Але пана Клейдэрэра, здаецца, два ўжо дні няма ў Бюхельбурзе. Нехта ўзламаў яго гараж, як паведаміў мне пан Бесельман.

— Можа і так. Готхальда цяпер няма ў Бюхельбурзе.

— Значыць, вы ведаеце, што ён паехаў?

— Я нічога не ведаю! Адкуль? Ён жа мне не дакладвае,— Альфрэд Мойзле пацiснуў плячамі.

Фаўльхубер сцёр насоўкай пот з ілба.

— Каб так было, усё было б ясна,— прамармытаў ён і, крэкнуўшы, устаў.

Тым часам я начарціў план месца аварыі, адначыўшы на ім усё галоўнае.

— Абследуйце машыну наконт адбіткаў пальцаў, — загадаў мне Фаўльхубер.— А мы з Бесельманам пойдзем да пані Клейдэрэр. Як толькі вы тут скончыце, можаце пад'ехаць туды на машыне.

— На гэтай? — здзівіўся я.

— Што вы! Вядома, на нашай.

— Слухаюся, шэф! — сказаў я, бо ведаў, што інспектар не любіць гэтага слова. Але і мне было мала радасці шукаць адбіткі пальцаў у машыне, якую няшчадна паліла жнівеньскае сонца.

Інспектар і обер-вахмістр пайшлі праз рыначную плошчу. За імі пацягнуўся Альфрэд Мойзле. Каза ўпіралася і так жаласна меркетала, што сэрца заходзілася. Відаць, здарова прагаладалася.

Між іншым, я таксама.

Але пра яду не было часу думаць. Я агледзеў унутранасць машыны — усё было сцёрта, альбо так залапана рукамі, што нічога нельга было разабраць. Аднак некалькі адбіткаў я ўсё ж знайшоў— загад Фаўльхубера быў выкананы. Скончыўшы, я спытаў у дзяўчыны з бялявым конскім хвастом на галаве, дзе жывуць Клейдэрэры, і яна ахвотна паказала мне дарогу і нават узялася суправаджаць мяне, але я палічыў за лепшае ехаць адзін, бо, між намі, яна ўжо вырасла ў паненку, і мне не хацелася трапіць на язык бюхельбуржцаў.

Сядзіба Готхальда Клейдэрэра стаяла на водшыбе ад гарадка, каля падножжа гары, на якой доўгімі радамі рос вінаграднік. Высокая каменная агароджа, што акружала дом, хлеў, павець і гараж былі нядаўна пафарбаваны. У акуратным чысценькім кветніку цвілі размарыны, альпійскія ружы і цюльпаны. Шырокая, з габляваных дошак брама была зачынена. Я тройчы націснуў на кнопку, і мне адчыніў сам інспектар. Прасторны двор быў выбрукаваны цёмна-чырвоным клінкерам, і толькі ў левым далёкім кутку, дзе два нізкія будынкі ўтваралі нешта накшталт тупіка, расла трава. Там я ўбачыў жанчыну гадоў пяцідзесяці ў доўгім рабочым халаце і хустцы.

— Гэта пані Клейдэрэр,— сказаў мне Фаўльхубер.— Муж яе, відаць, сапраўды ў ад'ездзе. Як справы з адбіткамі пальцаў? Што-небудзь ёсць?

Я пацiснуў плячамі і коратка расказаў, што мне ўдалося знайсці. Інспектар нешта сярдзіта прабурчаў сабе пад нос, быццам гэта няўдача парушыла ўсе яго планы.

Мы ўсё яшчэ стаялі ля варот, і Фаўльхубер ціха расказваў мне, што ён тым часам даведаўся:

— Пані Клейдэрэр сцвярджае, што сёння раніцой гаварыла па тэлефоне з мужам. Нібыта ён начаваў у свайго знаёмага ў Нюрнбергу, а прыехаў туды ўчора пасля полудня. Вунь тыя дзверы ўзламаны,— інспектар паказаў рукой у другі канец двара, і я ўбачыў, што каля гаража стаіць Бесельман.— Зрэшты, зроблена даволі па-дылетанцку, так сказаць, больш сілай, чым умельствам. Машыну вывелі з гаража і ўгналі.

— Вароты ж цэлыя,— здзівіўся я.— Як жа выехалі з двара?

— Знаёмая музыка! Людзі ўсё старанна замыкаюць, часта на два ці тры замкі, толькі вароты зачыняюць простай засаўкай. Варта толькі пералезці цераз агароджу і адсунуць засаўку.

— І ніхто нічога не чуе? Такая брама, як гэта, каб яна не зарыпела, ужо не кажу пра грукат, калі выломлівалі гаражныя дзверы.

— Пані Клейдэрэр спіць у пакоі, вокны якога выходзяць на дарогу, а абодва работнікі жывуць у мястэчку і там начуюць.

— Я не зусім разумею,— сказаў я,— з замкнёнага гаража крадуць машыну дзеля таго, каб крыху праехацца... Такое, вядома, бывае. Часцей за ўсё так робяць хуліганы, якім карціць пакруціць баранку. Але яны крадуць машыны, што стаяць на дарозе без шафёраў. Гэта прасцей. Ці не сам усё ж такі Клейдэрэр... Ён аматар выпіць. Вы ж самі казалі, што крадзеж з узломам можна інсцэніраваць, каб не адабралі вадзіцельскія правы.

— Не,— запярэчыў інспектар.— Здагадка мая была недарэчная. Цяпер я амаль перакананы, што машыну ўкралі.

— Ці пакінуў злачынец сваю візітную картачку?

— Пойдзем! — Фаўльхубер узяў мяне за локаць і павёў праз двор.— Вы ж крыміналіст, так? Тады агледзьце месца злачынства. Перш чым пазваніць нам, Бесельман загадаў пані Клейдэрэр нікога на двор не пускаць, каб не сцерці слядоў, і яна паслухалася яго.

Я павітаўся з жанчынай у сялянскай хустцы. Перш чым адказаць на маё прывітанне, яна збянтэжана правяла рукой па сваёй рабочай робе. Відаць, пан Клейдэрэр не вельмі траціўся на сваю лепшую палавіну.

Я ўсё грунтоўна агледзеў. Краем вока Фаўльхубер сачыў за маімі дзеяннямі. У шырыню гараж быў каля трох метраў, у даўжыню — каля пяці. На палічках уздоўж пярэдняй сцяны стаялі толькі два пустыя бачкі для масла і ляжалі брудныя анучы. Да левай сцяны, амаль пасярэдзіне яе, была пастаўлена старая пакрышка. Драўляныя дзверы гаража былі дабротныя, моцныя. Нехта ўзламаў замок. На рэйцы, што пры зачыненых створках прыкрывае стык, віднелася ўмяціна ў дзесяць міліметраў шырыні — у гэтым месцы ўзломшчык, пэўна, усунуў нейкую жалязяку.

Інспектару здалося, што я вельмі маруджу.

— Агледзьце ж след ад скатаў! — гукнуў ён нецярпліва.

Як я ўжо сказаў, у тупіку, які з аднаго боку быў абмежаваны гаражом, з другога — нейкім гаспадарчым будынкам, а ззаду — каменнай агароджай, расла трава — свежая, зялёная, не вельмі высокая. На ёй добра відаць былі адбіткі пратэктараў. Адзін след вёў з гаража наўскасяк управа і канчаўся амаль ля самай сцяны гаспадарчага будынка, другі ішоў улева ад дзвярэй гаража, губляючыся на клінкерным бруку двара.

— Ясна,— сказаў я,— спярша машыну вывелі з гаража ў адзін бок, але сцяна перашкодзіла. Тады падаліся назад і развярнулі машыну.

Інспектар і брывом не павёў, і я не ведаў, ці задаволены ён маім заключэннем.

— А ці ведаеце вы, што гэта значыць? — нарэшце спытаў ён.

Я здагадваўся, што ён мае на ўвазе, але лічыў, што лепей маўчаць: Фаўльхубер не любіць, калі яму псуюць урачысты выхад на сцэну. Ён адразу ж выпусціў ката з меха:

— Злачынец не ведаў альбо не вельмі добра ведаў гэтае месца. У дадатак было цёмна, а машына як заўсёды стаяла заднімі коламі да дзвярэй гаража — пра гэта гаворыць пакрышка, якая спецыяльна пастаўлена да сцяны, каб левыя дзверцы не стукалі па ёй. Выязджаючы з гаража, злачынец не ведаў, што тупік не такі шырокі, каб у ім развярнуцца. Калі ж убачыў, што гэтага зрабіць нельга, ён зноў уехаў у гараж і вырулiў з яго ў другі бок. Той, хто ведае, як уязджаць у гараж, ніколі так выязджаць з яго не будзе.

Я нічым не мог запярэчыць. Хочаш не хочаш, давялося адмовіцца ад падазрэння супраць Клейдэрэра. Смешна сказаць, але мяне гэта крыху злавала — я недалюбліваў гэтага чалавека, хоць ніколі і ў вочы яго не бачыў: расказ чыгуначніка настроіў мяне супраць яго. Але, вядома, нельга паддавацца настрою. За гэта інспектар кішкі з мяне выпусціў бы.

У густой крапіве каля гаражных дзвярэй нешта блішчала. Выцягнуўшы з кішэні насоўку, я падняў з зямлі плоскі металічны брусок каля дваццаці сантыметраў у даўжыню і паднёс яго пад самы нос інспектару.

*(Працяг будзе).*

